# Голас Радзімы

№ 40 (2182)
4 кастрычніка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Мінскія мастакі Валерый Шкаруба, Віктар Барабанцаў і Уладзімір Кожух не проста сябры і аднадумцы. Кожны з іх мае сваю творчую індывідуальнасць, свой жыццёвы вопыт і свае планы на будучыню. Згуртавала ж гэтых маладых людзей і шмат у чым абумовіла іх сумесную працу адна рызыкоўная творчая камандзіроўка.**

**Роўна праз год пасля чарнобыльскага выбуху, вясной 1987 года, яны адправіліся ў тыя мясціны, адкуль адселены людзі, каб на свае вочы ўбачыць і глыбей зразумець усю бясконцасць трагедыі, што здарылася на гэтай зямлі. Яны сустракаліся і гутарылі з жыхарамі Брагіна і навакольных вёсак, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці да «зоны», рабілі накіды, натурныя замалёўкі і эцюды ў самой «зоне». Вынікам паездкі стала сумесная выстаўка ў Палацы мастацтва, дзе гледачы ўпершыню сталі сведкамі мастацкага асэнсавання Чарнобыля. І хаця ў той час мастакі, як і ўсе мы, не мелі праўдзівай інфармацыі аб памерах катастрофы і яе магчымых выніках, яны, тым не менш, душой адчулі, якая вялікая бяда спасцігла народ... Пасля той камандзіроўкі мастакі не перапынялі працу над тэмай Чарнобыля. На змену некаторай ілюстрацыйнасці і літаральнасці адлюстравання рэчаіснасці прыходзіла філасофска-эпічнае асэнсаванне. З лепшымі работамі В. Шкарубы, У. Кожуха і В. Барабанцава, напісанымі пад уплывам паездкі 1987 года, і новымі, створанымі ў апошні час, могуць пазнаёміцца і амерыканцы. 30 карцін гэтых аўтараў дэманструюцца цяпер у Нью-Йорку, дзе праходзіць 45 сесія Генеральнай Асамблеі ААН.**

Фота С. КРЫЦКАГА.

НА ЗДЫМКУ: мастакі В. ШКАРУБА, В. БАРАБАНЦАЎ, У. КОЖУХ.

ЗВАРОТ ДА СУСВЕТНАГА СУПОЛЬНІЦТВА

# ДАПАМАЖЫЦЕ Ў НАШЫМ ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ГОРЫ!

**26 ВЕРАСНЯ 1990 ГОДА Ў АГУЛЬНАЙ ДЫСКУСІІ НА 45-й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ.**

Удзяліўшы ўвагу праблемам, якія хвалююць сёння міжнародную грамадскасць, В. Кебіч больш падрабязна спыніўся на тым, што нам баліць: на выніках атамнай катастрофы на Чарнобыльскай АЭС для беларускага народа. Старшыня ўрада Беларусі адзначыў, што чатыры гады назад наша рэспубліка аказалася ахвярай гэтай катастрофы, якая адбылася не на нашай тэрыторыі.

Аварыя на атамнай электрастанцыі ў маленькім гарадку Чарнобылі стала вялікай агульнай бядой як для беларускага, так і ўкраінскага і рускага народаў, трагедыяй сапраўды планетарнага характару. Выхад са строю толькі аднаго атамнага рэактара прывёў да радыеактыўнага заражэння велізарных прастораў, паставіў пад пагрозу здароўе насельніцтва многіх краін.

Але самыя вялікія цяжкасці выпалі на долю беларускага народа. На тэрыторыю Беларусі прыпала 70 працэнтаў радыеактыўных выкідаў. Не вузкая палоска зямлі, якая прымыкае да рэактара, як гэта ўяўлялася спачатку, а ўся тэрыторыя рэспублікі стала зонай нацыянальнага экалагічнага бедства.

Сёння Чарнобыль стукае ў наша сэрца. Ён стукае радыеактыўнымі разрадамі ў лічыльніках Гейгера на нашых палях і вуліцах нашых гарадоў. Ён — у падманліва ціхай прыгажосці лясоў і рэк, у якія нельга ўвайсці.

Трэба бачыць адчай селяніна, які не можа апрацоўваць зямлю, дзе стагоддзямі вырошчвалі збожжа яго продкі. Гора і бяссілле маці, чые дзеці гаснуць на вачах. Нямая жальба старых, якія вымушаны назаўсёды пакідаць дарагія сэрцу мясціны, дзе прайшло ўсё іх жыццё, дзе засталіся магілы блізкіх...

Наша рэспубліка панесла і нясе велізарныя страты. Больш як 2,2 мільёна чалавек, а гэта кожны пяты жыхар рэспублікі, 18 працэнтаў усіх найбольш прадукцыйных сельскагаспадарчых зямель, 20 працэнтаў усіх лясоў аказаліся ў зоне доўгачасовага дзеяння крыніц радыяцыі. У выніку дозы знешняга і унутранага апраменьвання насельніцтва Беларусі, атрыманыя ад кароткажывучых і атрымліваемыя ад доўгажывучых радыенуклідаў, самыя высокія з вядомых сусветнай практыцы.

Толькі непасрэдна эканамічны ўрон, паводле самых стрыманых ацэнак, складзе каля дзесяці гадавых бюджэтаў. Для аднаўлення патрэбны не толькі сродкі, неабходны, прычым сёння, неадкладнае абсталяванне, сучасныя медыкаменты, найноўшыя спецыяльныя веды і тэхналогіі. Неабходнымі нават з'яўляюцца прадукты харчавання — таму што мы вымушаны спыніць сельскагаспадарчую вытворчасць на значнай частцы сваёй тэрыторыі.

На жаль, сапраўдныя маштабы трагедыі нам сталі ясныя не адразу. Бо такое адбылося ўпершыню ў свеце. Цяпер зразумела, што па цяжару вынікаў — яны будуць адчувацца сотні гадоў, па маштабах радыеактыўнага забруджання Чарнобыль — гэта, без перабольшання, найвялікшая катастрофа ў гісторыі чалавецтва.

Чарнобыльская бяда вылілася далёка за нашы межы. Ідзе непазбежнае распаўзанне радыенуклідаў. Нам трэба яго спыніць. Неабходна набыць для чалавецтва вопыт барацьбы з вынікамі такой катастрофы,

Таму і звяртаемся мы са сваім горам да ўсяго сусветнага супольніцтва. Сёння нашы граніцы адкрыты для дапамогі — і спадзяёмся, што растучае ў свеце ўсведамленне маштабаў катастрофы будзе рабіць гэтую дапамогу ўсё больш актыўнай. Бо гаворка ідзе аб тым, каб ліквідаваць пагрозу, якая навісла над здароўем людзей у дзесятках краін свету.

Наш народ заўсёды нёс свае цяжкасці на ўласных плячах. Усё, што ў нашых сілах, для ліквідацыі вынікаў катастрофы робіцца. Аднак, падкрэсліў В. Кебіч, памеры яе настолькі вялікія, што без аб'яднання намаганняў на міжнародным узроўні не абысціся.

З высокай трыбуны ААН Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР В. Кебіч выказаў глыбокую ўдзячнасць парламента і ўрада Беларусі ўсім дзяржавам, усім арганізацыям, усім людзям добрай волі —хто, адгукаючыся на наш заклік, працягнуў руку дапамогі ў гэты вельмі цяжкі для народа Беларусі час.

Наша асаблівая ўдзячнасць, сказаў ён, генеральнаму сакратару ААН пану Хаўеру Перэсу дэ Куэльяру за яго намаганні, а таксама ўсім членам Эканамічнага і сацыяльнага савета ААН за аднадушнае прыняцце рэзалюцыі аб супрацоўніцтве ў пераадоленні вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

У гэтай зале, сказаў В. Кебіч, чые сцены чулі аб горы і слёзах мільёнаў людзей, якія становіліся ахвярамі самых розных бедстваў, я заклікаю ад імя ўрада Беларусі да салідарнасці народаў і дзяржаў у бядзе, да гэтага часу нечуванай,— радыеактыўным заражэнні з прамымі глабальнымі вынікамі. Мы будзем удзячны за любую падтрымку, з падзякай сустрэнем любыя прапановы аб дапамозе. Таму што гамлетаўская дылема паўстала перад беларускім народам як этнасам ужо не ў філасофскім, а ў жахліва прамым сэнсе.

ВА ЎРАДЗЕ БССР

## ТРЭБА ЎЛАДУ ЎЖЫЦЬ

**На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР была заслухана справаздача ўрада аб мерах па стабілізацыі эканамічнага і сацыяльна-палітычнага становішча ў рэспубліцы. Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч расказаў аб тым, як урад шукае выхад з крызіснай сітуацыі, у якой рэспубліка аказалася ў многім з-за ўзнікшай неспрыяльнай абстаноўкі ў краіне ў цэлым. Аналіз грашовых даходаў і расходаў насельніцтва Беларусі паказвае, што за 8 месяцаў увесь прырост тавараў — а ён склаў у параўнанні з мінулым годам больш як 17 працэнтаў — быў зроблены не жыхарамі рэспублікі. Таму ўрадам прадугледжаны цэлы рад мер эканамічнага, фінансавага і адміністрацыйнага ўздзеяння, якія дапамогуць палепшыць становішча на спажывецкім рынку. Яны выкладзены ў падрыхтаванай Саветам Міністраў БССР пастанове. Адзін са шляхоў — рацыяніраванне або размеркаванне асноўнага асартыменту харчовых і прамысловых тавараў кожнаму жыхару рэспублікі.**

**В. Кебіч шчыра прызнаўся, што гэтыя меры не ляжаць у напрамку пераходу да рынку, хутчэй, наадварот, аднак іншага выхаду ўрад не бачыць. Але яны ў асноўным знайшлі разуменне народных дэпутатаў — членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, якія прад'явілі свой іск ураду: чаму ён марудзіў з такой жорсткай палітыкай, якая магла б не дапусціць развалу спажывецкага рынку, чаму падначаленыя Савету Міністраў праваахоўныя органы не могуць навесці парадак у гандлі, неэфектыўна змагаюцца са спекуляцыяй і вывазам цэлых партый тавараў за межы Беларусі? Як адзначалася на пасяджэнні, урад не ў поўнай меры карыстаецца ўладай, прадастаўленай яму парламентам рэспублікі.**

**Відаць, адна з прычын нерашучасці ўрада — адсутнасць пакуль што канкрэтнай і яснай канцэпцыі пераходу рэспублікі на рынача адносіны. В. Кебіч сказаў, што лічыць непрымальнымі для Беларусі ні праграму Расіі, вядомую пад назвай «500 дзён», ні праграму, прапанаваную Саветам Міністраў СССР. Хутчэй за ўсё, будзе выпрацавана ўласная праграма на аснове дакумента, распрацаванага НДІ Міністэрства авіяцыйнай прамысловасці СССР, якая носіць назву «Парытэт».**

ПАЧАТА ВЫТВОРЧАСЦЬ



**Думаецца, кожнаму нашаму аўтааматару будзе ў радасць набыць аўтапрычэп «Няміга». У адрозненне ад шырока вядомага «Зубраняці» ў ім прадугледжана ўзаемазамяняльнасць колавых дыскаў аўтамабіляў «Таўрыя», «Запарожац», «Жыгулі». У параўнанні з коштам «канкурэнта» больш даступная цана — 590 рублёў.**

**Распрацавала і наладзіла выпуск навінкі вытворча-тэхнічнае прадпрыемства «Няміга» — кааператыў, створаны пры мінскім заводзе «Ударнік». Спачатку мяркуецца сабраць 250 аўтапрычэпаў. У наступным годзе іх будзе выраблена да 10 тысяч. Вядома, невялікаму калектыву кааператараў (а працуе тут усяго 21 высокакваліфікаваны спецыяліст) не па сіле задаволіць узрастаючы попыт на аўтапрычэпы. Але з прадпрыемствамі, якія жадаюць наладзіць такую ж вытворчасць, яны гатовы падзяліцца дакументацыяй. Праўда, гэта будзе ўжо не «Няміга», а новая мадэль прычэпаў. Якая! Пакуль гэта, зразумела, камерцыйная тайна.**

**НА ЗДЫМКУ: чарговая партыя аўтапрычэпаў гатова да адгрузкі. Слесары-зборшчыкі (злева направа) Уладзімір ТАРАНЖЫН, Сяргей ПАЖАРЫЦКІ і Яўген ФЕДАСЕЕЎ.**

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



**Нарыхтоўка кармоў на зіму завяршаецца на Гомельшчыне. Да пяцісот тон зялёнай масы на сілас убіраюць з кожнага гектара кукурузнага поля ў калгасе «Перамога» Гомельскага раёна. Такія ж высокія ўраджаі атрымалі сёлета ў многіх гаспадарках Беларусі.**
**НА ЗДЫМКУ: уборка кукурузы ў калгасе «Перамога».**

*«Кожны год тут, на Захадзе, знаходзяцца людзі, якія прадракаюць падзенне Гарбачова. Я, дарэчы, ніколі не падзяляў іх настрой. Не думаю, што Гарбачова чакае асабістая катастрофа. Але ў той жа самы час я з вялікім скептыцызмам стаўлюся да магчымасці дабіцца поспеху ў перабудове без прыняцця самых радыкальных мер.*

*Што я маю на ўвазе?*

*У палітычным плане — гэта рух да поўнага плюралізму.*

*У эканоміцы — безумоўна, злом сістэмы, якая грунтуецца на цэнтралізаваным планаванні.*

*Радыкальныя падыходы, відавочна, выклічуць сацыяльныя ўзрушэнні. Але калі вы не станеце на шлях радыкальных перамен, вас чакае эканамічная катастрофа. Вы аказаліся перад гордзіевым вузлом. Няма ў вас простага шляху.*

*Савецкі Саюз — вялікая дзяржава, і ён застаецца такой. Безадказна, на мой погляд, забываць пра гэта. Ад становішча ў вашай краіне залежыць у немалой ступені сітуацыя ў свеце. Лічу, што цяпер не толькі на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, але і на ўзроўні грамадскай думкі на Захадзе ў наяўнасці глыбокае ўсведамленне гэтай рэальнасці. Вельмі і вельмі мала сустракаеш зларадпасць наконт бед Савецкага Саюза. Наадварот, існуе нейкае ўсеагульнае імкненне зрабіць так, каб СССР не адчуваў сябе адчужаным ад сусветнага супольніцтва, не адчуваў, што яму нешта пагражае, што ім грэбуюць».*

*(Франсуа ЭЙСБУРГ, дырэктар Міжнароднага інстытута стратэгічных даследаванняў).*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ У Беларусі пасля XXVIII з'езда КПСС добраахвотна пакінулі рады КПСС 9 тысяч 697 чалавек. З іх 69,8 працэнта — рабочыя, 24,4 — служачыя, 5,1 — сяляне і 6,7 працэнта — пенсіянеры. Працэс гэты пакуль не спыняецца.

◆ У Салігорску заснаваны рабочы саюз — новая незалежная грамадска-палітычная арганізацыя. Лічачы, што кіраўніцтва Беларускай рэспублікі займае надта кансерватыўныя пазіцыі, рабочы саюз ставіць мэту садзейнічаць радыкальнай перабудове грамадства.

◆ Спектаклі альтэрнатыўнага тэатра Вітаўтаса Грыгалюнаса цяпер пойдуць на новай сцэне ў Мінску. Тут на вуліцы Веры Харужай адкрылася тэатральная зала на 250 месцаў.

◆ Пашанцавала навучэнцам Брэсцкай музычнай школы. З падвальнага памяшкання, якое не адпавядала элементарным санітарным нормам, гарадскі Савет перасяліў яе ў будынак былога райкома партыі. Цяпер школа мае амаль 40 класаў, канцэртную залу на 370 месцаў.

◆ Дагавор аб навуковым супрацоўніцтве паміж акадэміямі навук Беларусі і Балгарыі падпісаны ў Сафіі. Пагадненне, пад якім паставілі подпісы акадэмікі Благавест Сяндоў і Уладзімір Платонаў, прадугледжвае расшырэнне кантактаў у галіне грамадскіх і прыродазнаўчых навук.

◆ Каля ста маладых рабочых з В'етнама вось ужо трэці год працуюць на гродзенскай абутковай фабрыцы «Нёман». Прафесійную падрыхтоўку яны атрымалі тут жа на вытворчасці. Цяпер яны заключылі кантракты з фабрыкай яшчэ на тры і пяць гадоў.

*БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА СЁННЯ*

# ВЯРТАННЕ «ДЗІВОСНАГА» ЛЕСУ

«Чалавеку, які ніколі не быў у Белавежскай пушчы, цяжка ўявіць сабе велічную, своеасаблівую прыгажосць гэтага ў многіх месцах яшчэ першабытнага лесу». Вядомы даследчык пушчы Г. Карцаў напісаў гэтыя радкі на стыку мінулага і сучаснага стагоддзяў. Напярэдадні нашага стагоддзя, самага бязлітаснага да прыроды. Лес заўсёды быў безабаронны перад пажарам і бурамі, але не так, як перад чалавекам. Тут ён аказаўся зусім бездапаможным. На шчасце, не заўсёды і не ўсюды. У Белавежскай пушчы ўсё-такі ўдалося выратаваць і захаваць тыя мясціны першабытнасці, якімі дзевяць дзесяцігоддзяў назад захапляўся вучоны. І ў гэта з цяжкасцю верыш, ведаючы, якія варварскія спусташэнні перажыў старадаўні «дзівосны» лес.

У розныя часы тут былі розныя парадкі. Відаць, не ўспомніўшы пра іх, цяжка зразумець ўсю ўнікальнасць тутэйшага прыроднага свету. Што мы ведаем з гісторыі пушчы? Якая яна сёння? Перад паездкай у пасёлак Камянюкі—галоўныя «вароты» запаведніка — мы паспрабавалі пашукаць некаторыя папулярныя выданні, з якіх можна было б атрымаць цікавую пазнавальную, уключаючы навуковую, інфармацыю пра пушчу. Але дарма. Знайшлі пару кароткіх брашур ды яшчэ некалькі фотаальбомаў у даволі бедным паліграфічным выкананні. Надта ж бедна, калі ўлічыць, што толькі наведвальнікаў тутэйшага музея прыроды штогод набіраецца ад 170 да 200 тысяч чалавек.

Па-рознаму трактуюць гісторыкі паходжанне назвы пушча. Адны лічаць, што пайшла яна ад Белай вежы, пабудаванай у канцы трынаццатага стагоддзя князем Уладзімірам Валынскім у горадзе-крэпасці Камянец для аховы сваіх уладанняў. Вежа, цяпер афарбаваная ў белы колер, стаіць і дагэтуль, але ўжо не ў межах суцэльнага лесу—ён адступіў кіламетраў на 20. Іншыя аўтары лічаць, што назвай сваёй пушча абавязана гораду Белавеж — цяперашняму яе цэнтру «з таго, польскага боку». Трэція дапускаюць, што тут нейкую ролю адыграла рака Белая. Пра гэтую даўнюю навуковую спрэчку мы ведаем яшчэ са школьных падручнікаў.

Многа разоў Белавежская пушча як уласнасць пераходзіла ад адных уладальнікаў да другіх, больш моцных. І кожны вольны быў распараджацца ёю па-свойму. Па паданнях, тут жыло старажытнае племя яцвягаў, звераловаў і паляўнічых, якое вынішчылі ў час міжусобіц. Рускія князі, польскія вяльможы, літоўскія каралі — усякі на свой густ — ператваралі пушчу ва ўгоддзі для пышных паляўнічых забаў і гаспадарчых промыслаў. Запаведнай яна была ў сэнсе забароны палявання для ўсіх астатніх. Тытуляваныя ж асобы не ведалі меры. У час аднаго з паляванняў, па сведчанню летапісцаў, жонка польскага караля Аўгуста III забіла 20 зуброў, чытаючы пры гэтым кнігу ў перапынках паміж загонамі. Да сярэдзіны XVII стагоддзя зніклі туры.

У бліжэйшыя да нас часы спажывецтва ў адносінах да унікальных багаццяў гэтага краю прыняло яшчэ больш нястрымныя формы. Пасля французскага нашэсця, польскага паўстання і камерцыйных вырубак лесу ў пушчы зніклі мядзведзі, бабры, дзікія коні тарпаны. І ўсё ж перад пачаткам першай сусветнай вайны тут яшчэ налічвалася звыш сямісот зуброў, каля шасці тысяч аленяў, больш за чатыры тысячы казуль і вялікі статак дзікоў. За шэсць гадоў усё гэтае пагалоўе, за выключэннем адзінкавых асобін, было знішчана. Апошнюю зубрыцу забіў селянін з вёскі Стачок ў Белавежы Варфала Шпаковіч. За час акупацыі зераўцы высеклі і вывезлі з пушчы звыш чатырох мільёнаў кубаметраў драўніны — амаль столькі, колькі нарыхтавала лесу тут царская Расія за сто папярэдніх гадоў! Сэрца старажытных еўрапейскіх лясоў Белавежа — была практ абяскроўлена.

Навошта гэты сумны экскурс у мінулае? Як урок на будучыню. Відаць, чалавеку ўласціва іншы раз апынуцца ля апошняй рысы, заглянуць у бяздонне, каб апамятацца, падумаць пра тое, што ён губляе беззваротна, назаўсёды. Бо знішчэнне пушчы ўрад даваеннай Польшчы дазваляў аж да 1939 года. Практычна сорак працэнтаў векавога лесу было высечана. Толькі частка запаведніка ўвайшла ў Нацыянальны парк, куды са Швецыі і Германіі палякі завезлі некалькі зуброў. Яны і паклалі пачатак аднаўленню белавежскага статку. Але пасля другой сусветнай вайны на савецкай тэрыторыі пушчы зноў не засталося ніводнай асобіны. Добра, што зубры захаваліся ў польскім гадавальніку, і ў 1946 годзе пяць з іх перадалі нам. Вось так яны і выжывалі — пушча і зубр.

Запомнілася цікавая думка вучонага, знаўцы Белавежскай пушчы С. Северцава, на якую спасылаўся ў гутарцы навуковы супрацоўнік запаведніка С. Шостак. Разважаючы аб дынаміцы колькасці жывёл у пушчы (а па капытных у нас ёсць стогадовая практыка яе вядзення), прафесар Северцаў прыйшоў да вываду, што пушча захавалася дзякуючы таму, што там вадзіўся зубр. Уласна, і ён ахоўваўся дзякуючы ёй. У многім зубру пушча абавязана тым, што стала запаведнай.

Цяперашнія парадкі ў запаведна-паляўнічай гаспадарцы «Белавежская пушча» (такая яе назва) нам здаліся празмерна строгімі. «Паглядзець пушчу? Толькі з дазволу дырэктара... Сяргей Сяргеевіч павінен быць у канцы дня...» Вось ужо сапраўды, падумалася карэспандэнту, лягчэй прайсці на абароннае прадпрыемства, чым глянуць на дзіка. Зрэшты, раней было і больш жорстка, калі пытанні «што трэба?», «з якой мэтай?» задаваліся спачатку ў мінскіх ці нават маскоўскіх кабінетах. Чым растлумачыць гэтую чыноўніцкую насцярожанасць? Напэўна, не толькі патрабаваннямі рэжыму, але і жаданнем іншых адказных асоб ахаваць «вотчыну» ад лішніх вачэй і вушэй. Бо яшчэ не струхлелі і не спісаны ва ўтыль утульныя паляўнічыя домікі і агнявыя вышкі для нядаўніх тытуляваных аматараў палявання. Пушча прыцягвала вяльмож не толькі з нашага дасавецкага мінулага...

— Часы зараз не тыя, — усміхаецца нам супрацоўнік запаведніка.

Сцяпан Шостак, кандыдат біялагічных навук, з дазволу дырэктара С. Балюка стаў нашым гідам. Даўно працуе тут, шмат ведае пра пушчу і захапляюча расказвае. І піша аб прыродзе, аб жывёльным свеце з тонкасцю знаўцы і вялікай цеплынёй. Гадоў дваццаць назад выйшлі яго «Запіскі натураліста» — светлая, як расінка, кніжачка. Шкада, што не перавыдавалася.

Спачатку мы ідзём у музей, які лічыцца ў штатах гаспадаркі як лабараторыя, дзе прапагандуецца ідэі аховы прыроды. Тут усё пабудавана, здабыта, абсталявана і любоўна аформлена «пушчанскімі», як сказаў наш гід, рукамі.

— Зубровы статак, — расказвае Сцяпан Віктаравіч, — налічвае 255 асобін. А ўсяго па краіне іх 307. Заўважце: гутарка ідзе не пра каўказскія (у тым ліку), а толькі пра белавежскія. У чыстым, так сказаць, выглядзе. Важыць зубр да адной тоны, жыве да трох дзесяткаў гадоў. Атрымліваецца, што з моманту іх вольнага рассялення ў нас прайшло не так ужо шмат часу — змянілася адно пакаленне. Але што можна ўжо сказаць? Праблема зубра абвастраецца.

Якая ні вялікая пушча (тэрыторыя яе да мяжы з Польшчай займае 87,5 тысячы гектараў), але ўсё-такі гэта замкнёнае асяроддзе пражывання. Замкнутасць (з захаду — граніца, з другіх бакоў — палі і вёскі) уплывае на размнажэнне жывёл, узнаўленне патомства, абмен генамі. Зубры захворваюць усё часцей. Некаторыя ідуць са статку ў пошуках дрэйфуючых асобін і часам асуджаюць сябе на невяртанне. Лячыць іх цяжка. Чатырыста рублёў бяруць каапэратары за ўсыпленне зубра, каб ветэрынары змаглі падысці да яго. Ды і добрых прэпаратаў няма, іх шукаюць за рубяжом. Ці можна выратаваць становішча сіламі аднаго запаведніка? Ці не загіне ў рэшце рэшт папуляцыя белавежскага зубра як асобнага віду, калі ўсё пакінуць як ёсць, — гэта найбольш трывожныя пытанні, што ўзнікалі ў нашых гутарках ў Камянюках.

Вядома, ідэальны варыянт — мець яшчэ, скажам, дзве запаведныя мясціны для рассялення зубра або наладжваць якіясьці паляўнічыя гаспадаркі для аднаўлення статку. Калі б гэта было так проста зрабіць — ужо зрабілі б. Між тым, паяўляю цяжкасці з рассяленнем уляцыі: калі ёсць інфекцыя, дык вывозіць зубра ці зубрыцу за межы пушчы нельга. Няма сэнсу і ў сябе трымаць хворага вытворніка. Застаецца адно — адстрэльваць. У мінулым годзе адстралялі тры дзес галоў. І што толку ад таго, э звер занесены ў Чырвоную кнігу?

— Адразу, натуральна, шум узняўся: маўляў, у пушчы зубра страляюць па прычыне і без прычыны, — працягвае С. Шостак. — Усё на самай справе не так, як пішуць у некаторых газетах. Тут усё строга. Кожная асобіна спачатку абследуецца і выбракоўваецца спецыяльнай камісіяй. Матэрыялы бракоўкі адсылаюцца ў Дзяржкампрыроды, у Маскву, адтуль даецца дазвол на адстрэл. Калі мяса забітага зубра прызнаецца прыдатным да яды, яго рэалізуюць праз мясцовы рэстаран. Так што ўсё па закону, але, вядома, лепш бы адсяляць...

Зубр як заалагічны від займае сваю, калі можна так сказаць, экалагічную нішу ў запаведніку. Сярод капытных жывёл ён траваядны. Вось алень — ён у асноўным карыстаецца кустова-драўняна-ягадным кормам. Казуля—кустоваедная жывёліна. Дзік, як вядома, усёедны. Гэта значыць, кожны з іх харчуецца са свайго «паверха». У наяўнасці адзіны прыродны комплекс звяроў, які запаўняе кожны сваю нішу. Разбурыць гэты комплекс — значыць разбурыць запаведнасць самой пушчы. Яна страціць свой спрадвечны выгляд. Гэта таксама, як стэпы не могуць быць нармальнымі стэпамі, калі там не будуць пасціся капытныя. Ці трэба кагосьці яшчэ раз пераконваць, што страта любога віду — гэта страта важнага звяна ў прыродзе, гэта страта для чалавека, нарэшце для эвалюцыі жывёльнага свету, для будучыні.

— Ну што ж, — паспрабавалі мы запярэчыць вучонаму, — не будзе зубра, няўжо не абыдземся без яго? Груба кажучы, прыбаўкі да нашага стала ён нам не дае...

— А чаму вы так лічыце? — адказаў вучоны пытаннем на пытанне. — Мы ж не ведаем магчымасцей гэтай папуляцыі. Вазьміце таго ж тура, якога зямля страціла назаўжды. Яго генафонд усё-такі застаўся, захавана парода—буйная рагатая жывёла, карова, прасцей кажучы. Зубр таксама можа стаць продкам якойсьці пароды ў будучыні. Чаму не?

...Пушча прачынаецца рана, мы таксама падняліся раней — і ў дарогу, у лясны гушчар. Цудоўны пачынаецца дзень. А раніцай асаблівы пах у лесе. Суцэльныя птушыныя канцэрты. І што найбольш уражвае — сама пушча. Так, яе трэба бачыць. Вось цяпер неяк па-новаму мы ўявілі гэтую вялікую і складаную лясную гаспадарку. Дзесяць лясніцтваў размешчана на яе тэрыторыі. Акрамя навукі, якая займаецца праблемамі лесазнаўства і экалогіі дзікіх жывёл, ёсць яшчэ лясны і вытворчыя аддзелы, дзе працуюць сотні людзей. Садзяць, аднаўляюць лес. Унутры пушчы існуе нешта накшталт калгаса па нарыхтоўцы кармоў для жывёлы. Акрамя таго, штогод вывозіцца да 50—60 тысяч кубаметраў драўніны—сухастою, павалу. Ёсць свой дрэваапрацоўчы завод, мастацкія майстэрні. Прырода, дарэчы, «выбракоўвае» значна больш, парадку 240 тысяч кубоў. Ёсць месцы, дзе паваленыя дрэвы не выбіраюцца. Тут ужо сапраўды запаведныя мясціны.

У апошні час усё больш чуецца галасоў на карысць таго, каб пушча была толькі запаведнай, не паляўнічай гаспадаркай. Гэта слушна. У рэшце рэшт у любым выпадку запаведнік — перш за ўсё надзейная, строгая ахова.

**В. ДЗМІТРЫЕЎ.**

## ІНДЫЙСКАЯ КУХНЯ Ў БЕЛАРУСКІМ КАФЭ



**Думкі пра душу і... страўнік прыходзяць пасля наведвання незвычайнага кафэ, якое адкрылася нядаўна ў адным з інтэрнатаў Мінскага Інстытута культуры. Кожнага, хто пабывае ў «Лотасе», чакае не толькі індыйскі каларыт інтэр'ера і стравы вегетарыянскай кухні, але і тая гасціннасць, з якой сустракаюць кожнага наведвальніка. Гэта адзінае пакуль у краіне кафэ арганізавалі члены мінскага аддзялення Міжнароднага таварыства ўсведамлення Крышны. Тут праводзіцца прапаганда здаровага маральнага стану жыцця, правільнага рацыянальнага харчавання.**

**«Лотас» прапаноўвае сваім наведвальнікам экзатычныя вегетарыянскія стравы ўсходняй кухні. Сапраўды, тут заўсёды можна паесці спакойна, смачна, танна, што немалаважна для студэнтаў, а галоўнае — з карысцю для арганізма.**

**Нягледзячы на тое, што кафэ размясцілася ў інтэрнаце, прыходзяць сюды не толькі моладзь. «Лотас» прыцягвае людзей розных узростаў і прафесій, нацыянальнасцей і веравызнанняў, перакананых крышнаітаў і проста тых, хто цікавіцца магчымасцю духоўных зносін. Наведвальнікаў аб'ядноўвае імкненне пазнаць свет і саміх сябе. Іх вера — гэта вера ў вышэйшыя веды (бо веды чалавека аб свеце суб'ектыўныя і, значыць, не заўсёды правільныя), у дабро і ў тое, што свет стане лепшым, калі ўсе мы будзем заняты не накапіцельствам, а самаўдасканаленнем. У гэтым вось духоўным адзінстве ўсіх, хто жыве на зямлі, незалежна ад рэлігійных, палітычных і сацыяльных адрозненняў, і заключаецца асноўная ідэя вучэння Крышны і яго паслядоўнікаў, якія адкрылі незвычайнае кафэ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у кафэ «Лотас»; смачную і здаровую ежу прапаноўвае наведвальнікам работніца кафэ Жанна ЛЮЛЬКЕВІЧ.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**



## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




Усё часцей можна пачуць сцвярджэнне, што беларускі народ перажывае сваё нацыянальнае адраджэнне. Здаецца, мы нарэшце ўцямілі, у якім трагічным стане знаходзіцца наша родная мова, і робім спробы ўвесці яе ва ўжытак, абудзіць цікавасць да старажытнай і слаўнай нашай гісторыі, бясцэннай культурнай спадчыны. Неад'емнай часткай шматвяковага нацыянальнага набытку з'яўляецца краязнаўства, археалогія, якія даюць магчымасць зазірнуць у мінулае і асэнсаваць яго, даведацца, як жылі нашы продкі. А менавіта беларускае краязнаўства знаходзіцца на мяжы скону, як піша ў адкрытым лісце да Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР група дзеячаў нашай культуры, сяброў Рады Беларускага краязнаўчага таварыства.

Праз 60 гадоў пасля папярэдняга, летась у снежні, адбыўся ў Мінску з'езд краязнаўцаў, гісторыкаў, рэстаўратараў, музейных работнікаў, дзеячаў культуры, які прыняў праграму, статут, абраў Раду БКТ. З'яўленне адкрытага ліста выклікана нежаданнем афіцыйных улад рэгістраваць краязнаўчае таварыства, варварскімі адносінамі да гістарычнай спадчыны народа.

У такі складаны час у «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» і выйшла кніжка вядомага беларускага вучонага-краязнаўцы Г. Каханоўскага «Прадвесне навукі», у якой аўтар сабраў багатыя звесткі аб першапраходцах у археалогіі, аб цэлай плеядзе вучоных дакастрычніцкіх часоў, якія, даследуючы пласты гісторыі, матэрыяльную культуру, раскрывалі таямніцы развіцця народа, яго побыту, звычаяў, паказвалі яго адметнасць.

Краязнаўцы мінулага пакінулі нам багатую спадчыну, у сённяшняй рабоце нельга абысціся без іх каштоўнага вопыту. Напрыклад, амаль 150 гадоў служыць кніга Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета», і лепшай працы па гэтых мясцінах пакуль што не напісана. Узбагачае сённяшніх навукоўцаў і проста цікаўных знаёмства з творчай спадчынай А. Ельскага, А. Кіркора, У. Сыракомлі, І. Шпілеўскага, некалькіх дзесяткаў іншых выдатных вучоных.

«Прадвесне навукі» — прадвесне археалогіі, якая вывучае гістарычнае мінулае на падставе рэчавых крыніц, здабытых пры раскопках. Археолагі сваімі практычнымі працамі, арыгінальнымі знаходкамі пацвярджалі і дапаўнялі сціслыя летапісныя помнікі, у якіх упершыню ўпаміналіся старажытныя беларускія гарады ці паселішчы.

У XIX — пачатку XX стагоддзяў беларуская археалогія стала самастойнай галіной ведаў. «Практычна археолагі Беларусі браліся за асэнсаванне ўсіх старажытных эпох, накапілі ў гэтым немалы вопыт, заклалі даволі надзейны падмурак навукі, — піша Генадзь Каханоўскі.— Стараннямі дзесяткаў даследчыкаў склалася цэлая сістэма археалагічных ведаў...»

Беларуская археалогія стымулявала прагрэс гістарычнай навукі, яе вопыт і ўрокі ўлічваюцца сучаснай навукай.

**Д. БАБАК.**




Брэст — горад старажытны. Летась ён адзначыў сваё 970-годдзе. І тым не менш старых вуліц ці раёнаў тут сустрэць амаль немагчыма: што знішчыў час, што разбурана ў вайну. Але і новыя забудовы не падобныя адна на адну. Вабяць сваёй непаўторнасцю і прыгажосцю.
НА ЗДЫМКУ: ля аднаго з брэсцкіх фантанаў.

Фота Э. КАБЯКА.

## ДА 500-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

# ТРЫ БІБЛЕЙСКІЯ ВОБРАЗЫ

На яго думку, яна прыадчыняе людзям загадку жыцця, яго таямніцу, «напервей, чего ради Господь Бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие». Вось чаму гэтую кнігу, пісаў далей асветнік, «всякому чаловеку потребна чести (чытаць.— **У. К.**), понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены...» Скарынавая прадмова да гэтага твора завяршаецца філасофскім, патрыятычным і па-сакратаўску мудрым выслоўем: «Просто ж я, Франтишек Скоринин сын с Полоцка, в лекарскых науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость розмышление смерти и познание самого себе... казал есми тиснути (надрукаваць.— **У. К.**) книгу светого Іова рускым языком Богу ко чти и людем посполитым (простым.— **У. К.**) к научению».

Пра што апавядаецца ў Кнізе Іова? Спачатку пра шчаслівае патрыярхальнае жыццё багатага і знакамітага чалавека, набожнага і справядлівага, бо ён нікога не крыўдзіў і выконваў усе належныя ў сваім народзе абрады. Меў ён сем сыноў і тры дачкі, сем тысяч дробнай скаціны, тры тысячы вярблюдаў, пяцьсот пар валоў, пяцьсот асліц ды шмат чэлядзі. «Сыны яго збіраліся, наладжвалі банкеты кожны ў доме сваім і ў дзень свой, пасылалі і запрашалі трох сёстраў сваіх есці і піці з імі». Калі ж чарговае кола бяседных дзён завяршалася, бацька Іоў маліўся за іх, робячы ахвярапрынашэнні Богу.

Але сталася так, што Бог паспрачаўся з д'яблам за душу Іова,— і пачаліся для Іова доўгія гады выпрабаванняў горам ды пакутамі. Прапала ўся маёмасць яго, загінулі дзеці, застаўся ён адзін, безнадзейна хворы, ды як сведка яго прыніжэння засталася жонка яго. Балела знявечанае цела, але яшчэ больш спакутавалася душа, бо пакінула яе вера ў праўду, боскую справядлівасць, ды так, што ён пракляў той дзень, калі нарадзіўся. Іоў кідае выклік самому «гаспадару свету», выкрывае несправядлівасць жыцця на зямлі, дзе добрыя пакутуюць, а злыя радуюцца. Яго суцяшаюць і з ім спрачаюцца трое сяброў, і ў іх узнёсла-эмацыянальным дыспуце абмяркоўваецца праблема тэадыцэі — маральнага апраўдання быцця і яго стваральніка Бога перад наяўнасцю сусветнага зла.

Скарынавыя анатацыі да ўсіх раздзелаў гэтай кнігі ствараюць своеасаблівую поліфанію галасоў-думак, раскрываюць дыялагічную неадназначнасць і супярэчлівасць ісціны і справядлівасці. Прамовы першага «суцяшальніка» грунтуюцца на такім сілагізме: нашыя пакуты ёсць непазбежны вынік нашых грахоў; Іоў шмат пакутуе, але не хоча ўсвядоміць сваёй віны. На гэта Іоў адказвае пытаннем: хіба не патрэбна Богу, каб мы дзеля яго апраўдання гаварылі няпраўду? Другі апанент заклікае яго да пакаяння, тлумачыць пакуты боскім выпрабаваннем. Нарэшце, з бліскучай прамовай выступае самы малады і разумны філосаф, сутнасць яго думкі Ф. Скарына перадаў кароткай анатацыяй: «Людская дабрата Богу не помагаеть, но самому человеку. Те же (таксама.— **У. К.**) злоба не досаждаеть Богу, но токмо человеку». Трэці апанент пераводзіць праблему спрэчкі на больш высокі, маральны ўзровень. Пакуты, што пасылаюцца Богам на чалавека,— гэта не пакаранне, а сродак духоўнага абуджэння.

У фінале аповесці «благасловіў Бог апошнія дні Іова больш, чым ранейшыя»: падвоіў яго маёмасць, зноў падарыў яму сыноў і дачок, «і не было на ўсёй зямлі такіх прыгожых жанчын, як дочкі Іова». Адным словам, герой аповесці як быццам бы вяртаецца да таго, што было ў самым пачатку, ды яшчэ (якраз, як і ў чарадзейнай казцы!) падвойвае сваю маёмасць. Пра тое, што трагедыя ўзбагаціла яго духоўным вопытам, можна толькі здагадвацца. Бо цяпер ужо не на багатыя застоллі з мноствам яды ды пітва збіраліся яго сваякі і сябры, а для таго, каб разам есці хлеб, тужыць па тых, хто пакутуе, ды суцяшаць адзін аднаго.

На пытанне, пастаўленае Ф. Скарынам у прадмове да кнігі,— «чего ради Господь Бог на добрых и праведных допущаеть беды и немоци, а злым и несправедливым даеть шчастье и здравие»,—адказвае не эпічная фабула гэтай кнігі, якая па закону жанра павінна мець шчаслівую развязку, а філасофская рэфлексія з нагоды пакутніцтва героя: «Так, не з праху выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда; але чалавек нараджаецца на пакуту, як іскры, каб паднімацца ў вышыню». З гэтай думкай пераклікаецца філасофская сентэнцыя з «Кнігі Эклезіяста», якую таксама пераклаў, выдаў і высока цаніў Ф. Скарына: «Таму што ў многай мудрасці шмат клопату, і хто памнажае розум, павялічвае смутак». (Дарэчы, з усіх выдадзеных першадрукаром Біблії толькі Эклезіяст някна факсімільна перавыдадзены і ўключаны ў «Скарынаўскі каляндар» яго складальнікам Ю. Лабынцавым).

Прыпомнім яшчэ аналагічнае выслоўе з выдатнага помніка старажытнарускай літаратуры — «Моления Даниила Заточа»: «Зла не видавши, добра не постигнути... Злато бо искушается огнем, а человек напастми; пшеница много мучима чист хлеб являет, а человек, беды подъемля, смысленноумен обретается».

На тытульным лісце выдадзенай Ф. Скарынам «Кнігі Іова» ёсць гравюра ў стылі народнага лубка, што па-свойму ілюструе яе змест. У цэнтры кампазіцыі паказаны раздзеты чалавек на ложку, якога бічуе казланогі чорт у прысутнасці абыякавых сведкаў. Перад намі — фальклорная, гратэскавая трактоўка чалавечай трагедыі. Пра тое, што народныя казачнікі добра ведалі біблейскі сюжэт Іова, сведчыць яго распрацоўка ў беларускім фальклоры, дзе ён, захаваўшы свой трагічны «зачын», часам набываў тыповую для народнай творчасці форму травестацыі (пераводу сур'ёзна-трагічнага ў нізкі, камічны план) і карнавальнай гратэскавай гульні. Таленавітыя казкі ў гэтым стылі ёсць у зборніках выдатнага беларускага фалькларыста і этнографа А. Сержпутоўскага.

Казка «Круці не круці, а трэба ўмерці» пачынаецца, бадай што, як «сялянска-беларускі» варыянт «Кнігі Іова»: «Быў адзін чалавек, у яго было дванаццацёра дзяцей: сем сыноў і пяць дачок. Усе яны былі гожыя і ўдалыя. Працаваў ён сам, працавалі дзеці, й даў Бог ім багацтва і ва ўсём дастатак А ведамо, калі дасць Бог здароўе, а ў сямейцы лад на худобу (дамашнюю жывёлу.— **У. К.**), то не трэ(ба) большага шчасця... Але ж, як кажуць, шчасце не вечнае». Так і на гэтую сям'ю пасылаліся няшчасці: пошасць скасіла ўсіх дзетак, гора і хваробы сагнулі жонку ў крук. Згарэла хата, ад памору прапала скаціна. «Астаўся той чалавек адзін, як кол, і гол, як маці радзіла». Пайшоў ён на возера тапіцца: «Стаў на беразе й давай наракаць на Бога й зваць к сабе смерць». І хоць смерць не забрала яго, але адкрыла яму сваё аблічча. З гэтага часу ён стаў лекарам-прарокам. «Паглядзіць, гдзе ў хворага стаіць смерць: калі ў нагах, то дасць яму выпіць вады, і выздаравее, а калі ў галавах, то скажэ, што гэтаго хвораго бярэ к сабе Бог». Гэткім чынам «лечачы» людзей, моцна разбагацеў, і захацелася яму жыць вечна. Каб абмануць смерць, ён прыдумаў сабе ложак на шарнірах і круціў яго так, каб смерць была толькі ў нагах, але доўга не пратрымаўся, павінен быў пагадзіцца з прыказкай: «Круці не круці, а трэба ўмерці».

Другая казка на матыў Іова са збору А. Сержпутоўскага вытрымана пераважна ў сур'ёзным тоне і па зместу набліжаецца да прыгодніцкага апавядання дыдактычнага зместу. У ёй гаворыцца пра жыццёвыя нягоды і духоўную стойкасць тыповага сялянскага Іова — працавітага і сціплага Ціхона, які «працаваў за двох, гараваў за трох». Людзі любілі яго за дабрыню. «А ведамо, калі е (ёсць.— **У. К.**) добры чалавек, то чорт ні на крок не адступіцца ад яго, дзень і ноч цікуе, каб яго спакусіць». Збіўся з ног нячысцік, ніяк не могучы падлавіць на нейкім граху Ціхона. Вырашыў узяць у яго апошняе з беднай маёмасці — «тады ён будзе наракаць на Бога». Вось загнаў чорт у багну Ціхонаву «адну кароўку да й тую бясхвостую». (Як бачым, тут казачнік не ўтрымаўся ад карнавальна-гратэскавага вобраза). Але Ціхон перахрысціўся ды й кажа: «На тое божая воля!» Разгубіўся чорт-нячысцік, не ведае, што рабіць. Вось ён адпраўляецца ў рай і просіць у Бога, «каб дазволіў яму зрабіць над Ціхонам практыку, які ён праўдзівы чалавек». Бог дазволіў выпрабаваць яго людской несправядлівасцю. Падгаварыў нячысцік зладзеяў, каб абакралі царкву, схавалі ўкрадзенае ў дупле вярбы, што схілілася над Ціхонавым плотам. Знайшоў Ціхон грошы ды й панёс да папа. Той і кажа: калі падзелім іх паміж сабою, то я не скажу, што ты абакраў царкву. Ціхон адмовіўся. Уззлаваўся поп і ўзвёў на яго паклёп перад людзьмі і ўладаю. Пасадзілі праўдзівага чалавека ў астрожныя калодкі. Але з часам людзі дазналіся праўду і вызвалілі Ціхона. Тады паклёпнікі спалілі яго хату. На яе папялішчы гаспадар знайшоў скарб. «І стаў з тых часоў Ціхон добра жыць ды Бога хваліць».

Казачнае пераасэнсаванне біблейскіх сюжэтаў, вобразаў і матываў багата прадстаўлена ў беларускім, рускім і украінскім фальклоры.

### ЦАР У РОЛІ СКАМАРОХА

Вось такія ці падобныя да іх гратэскавыя ды карнавальныя вобразы ёсць не толькі ў фальклоры, але і ў самой Бібліі, што набліжае яе да народнай творчасці. На тытульным лісце перакладзенай і выдрукаванай Ф. Скарынам 2-й Кнігі Царстваў (Прага, 1518) намалявана ілюстрацыя з надпісам: «Царь Давид играеть в гусле неся кивот господень; царица же Михоль видя и погорде и бе неплодна». Перад намі — графічная выява эпізодаў з раздзелаў гэтай біблейскай кнігі. Ківот (кіёт) — гэта пераносны алтар, які насілі з сабою воіны і народ да пабудовы царом Саламонам у Іерусаліме вялікага храма.

**Уладзімір КОНАН.**

Працяг. Пачатак у № 39.

